


Год 111, 1972, Верасень–Сьнежань
Беларускі квартальны часапіс

3-4(17-18)

September–December, Year 111, 1972
Byelorussian Quarterly Magazine

Зьмест

## СЛУЦКАЕ 1920–1972 ПАЎСТАНЬНЕ

Чаму мы сьвяткуем гэныя ўгодкі?
Таму што, ня толькі проста, ушаноўваем іх збройны чын але лічым яго правільным!

Чаму сьвяткуюць гэны збройны чын эміграцкая БНР, рыцары свастыкі, якія веруць і практыкуюць каляб аранства?!

На эміграцыі вас абсьмяюць, назавуць дурням, непрактычным калі вы ёсьць ідэйны случчак.
Ужо час зразумець, што:

Слова + Дзейнасьць = Посьпех альбо на сьмех!

## 90 ГОД АД ДНЯ НАРАДЖЭНЬНЯ ЯНКІ КУПАЛЫ

Янка Купала нарадзіўся ідэйным случчаком а памёр БССРаўскім каляб арантам.
Янка Купала, праз свае вершы, пакінуў памяць аб часу і лёсу Беларуса ў якім ён жыў.

## БЕЛАРУСКАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА НА ВЫГНАНЬНІ

У Вольным Сьвеце, беларускія палітычныя лідары дый некалькі сьвятароў не патрапілі збудаваць беларускаю праваслаўную царкву, якая-б яднала нас індывідуальна, палітычна дый пашырала свае межы ў душы тых Беларусаў дзе чужынец вытварыў пустыню. А такіх аж занадта многа!

Беларуская Праваслаўная Царква на эміграцыі па сёньня разьбіваіць, служыць чужым, індывідуальным і групавым інтарэсам, гоніць сваіх прыхажан да чужых прыходаў. А гэта не павінна было-б быць яе місыяй.

### ГІСТОРЫЯ

!944 год. Канец вайны. Разачараваньне і стараньне дапасавацца да абставін адных. Другі бок гэта недастаткова асьведчаная із Захадам, невялікая група Беларускай Палітычнай Інтэлігенцыі.

На эміграцыі першая група Беларусаў запоўнілі іншанацыянальныя лягеры для ДП, гэта амаль 90 а то і больш процантаў Беларусаў якія здаліся на лёс заходніх дзярдзяржаў у Заходняй Эўропе.

Беларускі япіскапат, які апекаваўся над маладой і кволай Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквой, дызэртыраваў да Расейскай Зарубежная Царквы ў Нямеччыне.

### Чаму так?

Беларускае духавенства, гэта тая нашая „інтэлігенцыя„ у якоя цела беларускае а душа руская—любіць пыху і любіць купацца ў масьле. Вось гэтая беларуская „духоўная інтэлігенцыя" не пайшла дарогай той беларускай інтэлігенцыі якая заініцыятавала і арганізавала Беларускаю Аўтакефальнаю Праваслаўнаю Царкву.

Як-жа зразумець тую большасьць Беларусаў якія запоўнілі іншанацыянальныя асяродкі?

## BYELORUSSIAN ORTHODOX CHURCH IN EXILE

In the Free World, the Byelorussian political leaders and a few Orthodox preists aren't able to build the Byelorussian Orthodox Church as it should be to unite us individually, politically and wake up Byelorussians that are still brain washed by our enemies. The number is to great of such Byelorussians!

The Byelorussian Orthodox Church in exile, up to this date is stirring a hatred among us, serves the foreigners interests, and is pushing its own parishioners to the churches of our enemies. This shouldn't be the purpose.

### HISTORY

At the end of World War 11 in Western Europe, there remained many thousands of Byelorussians. The two year old Byelorussian Autocephalic Orthodox Church organized in ,,Weissrutenische Comissariat" was left by her bishops without consent from those who initiated and organized the church. Head of the church, Mitropolit Pontelejman; Archbishops Filofei, Afanasij and other clergies deserted to the Russian Autocephalic Church in exile( Germany).

The majority of Byelorussians in Germany were hiding their nationality because western allies of World War 11 didn't recognize Byelorussians as a seperate nation. Indeed, only Byelorussians had no way to organize and settle seperately in camps in Germany as did other nations. Only the core of the Byelorussian inteligentia (as a former Polish citizen and active in BCR) organized themselves into two camps: Watenstadt and

Regensburg. A majority of Byelorussians disassociated from former BCR. They didn't want to be suspicious as German collaborators in the eyes of the western occupying forces. Byelorussian Orthodox bishops and clergy committed treason in the most difficult time for the Byelorussian Political Emmigrants and the Byelorussian Independent Orthodox Church.

In the two postwar years, the Byelorussian Political Emmigrants in Germany created two political divisions among themselves. As a reason in the beginning, it appeared to be only a legal matter to represent the Byelorussian people. As the years passed, political philosophy of their leaders came into the open. BCR leaders adhered with clergies that deserted the Byelorussian Orthodox Church. The BNR group organized the New Byelorussian Autocephalic Church. In this affair, outsiders played an important role. Ukranian Archbishop Sergei was the head of BAPC. Radny (member of BNR), Tomashek was ordained as Bishop Vasil From then on, each side started to use nicknames against each other such as Kryvich for the BNR group because they were pushing the idea instead of the Byelorussians using the word Kryvich; the BCR group was nicknamed as Zarubeznik - which was the name of the Russian church in exile where deserted Byelorussian bishops.

In 1953, BAPC started openly to collaborate with Vatican (Luvain Affair). Reverend Kryt (today Metropolit Andrej) and the journal 'Uzdym' revolted against religious policy stirred by president of the BNR and by many other members of this organization. BNR and BAPC today represent one party. It has no future because of the unofficial policies in the past toward our own faith.

Страх перад рэпатрыяцыяй да Сталіна, змушалі хавацца там дзе толькі можна было. І сапраўды, толькі Беларусы ня мелі нічога і нікога свайго дзе можна было-б пачувацца забясьпечаным праўна. Расейцы хавалісь за расейскаю белаю эміграцыю; украінцаў духова трымала іх інтэлігенцыя, царква на Захадзе, ЗША, Канадзе. Два беларускія асяродкі ў Заходняй Нямеччыне: Ватэнштэт і Рэгенсбург не маглі быць месцамі гуртаваньня, так як кожны Беларус знаў, што гэта тут была тая Беларуская Палітычная інтэлігенцыя якая супрацоўнічыла із немцамі, дый ёсьць на чорным лісьце аліянтаў пагэтаму большасьць Беларусаў пазьбегалі сваіх згуртаваньняў. Беларускія япіскапы выкарысталі гэта, як „прычыну” чаму і яны захацелі быць там дзе большасьць.

Беларусы за два паваенных гады на эміграцыі падзяліліся палітычна на БНРаўцаў і БЦРаўцаў. Пару праваслаўных сьвятароў падтрымалі БЦР. БНРаўская група пакінула калісьці супольныя асяродкі і цэрквы ў Ватэнштэце і Рэгенсбургу. Як абедзьве палітычна-дыктатарскія групоўкі, яны стараліся пераесьці адзін другому горла, падпарадкаваць інакш думаючых; кожны із іх пачалі пасвоему будаваць праваслаўныя цэцэрквы. Новаэўрапейцы із БЦР далей супрацоўнічылі із Расейскай Зарубежнай царквой. Эмігранцкая БНР пры помачы ўкраінцаў у 1947 г., у Канстанцы Нямеччына, арганізавалі групавую Беларускаю Аўтакефальную Праваслаўнаю Царкву. Украінец, арх. Сяргей стаў галавой царквы. Адначасна радны эмігранцкай БНР Тамашчык быў высьвечаны на япіскапа НоваЭўрапейцы із БЦР страцілі многа высілку каб зьліквідаваць канкурэнта на рэлігійным полі.

Metropolit Andrej has a chance to clean up his church. But such a number of Luvain and other missionaries from Catholic institutions in BAPC churches would make for him unusual difficulties.

The 1950 migration to the US and other countries created new situations. It was the proper time to do the best for the Byelorussian Cause. It meant to organize those Byelorussians who were under foreign influence for six years. We should prepare at that time to meet old emmigrants from Byelorussia in the New World. If leaders of both groups were intelligent enough they would make one church. Only the United Byelorussian Orthodox Church was able to unite Byelorussians individually and nationally. Partizan policy in the churches made the church a meeting place for political clubs, etc. - places where God doesn't want to be present.

In 1958, former Hitler collaborators from BCR held a meeting in South River, N.J. Mr. Puntus from Chicago, Ill. proposed to organize one other independent Byelorussian Church similar to BAPC. It was proposed to ordain Archmandrit Finkowski as a bishop. Both ideas were supported by those who attended the meeting. The majority of the leaders of BCR and Reverend Lapitzki were against such an idea. Through the efforts of Mr. Puntus' idea, it was realized in Chicago and partially in general. A few years later, second BAPC collapsed from the hands of the same Mr. Puntus with the help of Rev. Lapitzki. The reason for the collapse of the second BAPC was the suggestion to make the church as a corporation - the parishioners, idea of having a hand in the matter and continue ownership of the church by Mr. Puntus and his supporters.

Перасяліўшыся із Нямеччыны ў новыя краіны, зарубежнікі пакінулі Расейскаю зарубежнаю царкву дый перайшлі пад апеку грэцкага япіскапа.

Паралельна із двух асяродкаў 85% прыхажан былі за ліквідацыю раскола. Дзейнасьць зводзілася да намаўляньня „фюрараў” да супрацоўніцтва. Вельмі шкода,, што ўпрашваньне не перайшло ў акцыю.

Зарубежнікі мелі і маюць іншаю праблему. Яны ўвесь час залежылі і залежаць ад чужых япіскапаў. Каб мець непасрэднаю лучнасьць із патрыярхам а гэтым самым быць у лепшым праўным стане, як БНРаўская БАПЦ, яны рашылі падшукаць свайго япіскапа.

У 1958 годзе, на зборышчы новаэўрапейцаў у Саўт Рывары, энэргічны актывіст із Чыкага Пунтус, прапанаваў харатанізаваць архімандрыта Фінькоўскага дый арганізаваць БАПЦ па прыкладу БНРаўцаў. За выключэньнем „фюрараў, прысутныя падтрымалі ідэю.

1 лютага 1959 года, у Украінскім Сьвята-Пакроўскім Кафэдральным Саборы, у Чыкага, архім. Фінькоўскі быў харатанізаваны, як япіскап Уладзімер, адначасна ён стаўся правячым япіскапам, па ліку другой БАПЦ на эміграцыі. Хоць ідэя паўстала із нізоў БЦР, вярхі так і не падтрымалі другой БАПЦ, асабліва сьвятар Лапіцкі із Саўт Рывэра. Каб зразумець чаму, возьмем урывак із часапіса „Жыве Беларусь”, №9, 1959 г. За подпісьсю царкоўнага старшыні Сьвята Юр'еўскай парафіі другой БАПЦ у Чыкага І. Панкевіча, сакратара М. Латушкіна і старшыні БАНРады ў Чыкага В. Пунтуса.

„За сваю самаахвярнаю царкоўна і нацыянальна патрыятычную працу пад чужацкімі акупацыямі Беларусі быў польскаю ўладаю арыштаваны і высланы ў Жыровіцкі манастыр, а нямецкаю ўладаю па даносах царкоўных праціўнікаў быў заарыштаваны, -маральна і фізычна тартураваны ў засьценках і падвалах гестапо ў Менску

Second, BAPC had a bright future to unite with BNR's, BAPC, because they were established under the same church laws.

In 1956 in England, the third political movement was established and known as the Byelorussian Liberation Movement. They organized their own church under the jurisdiction of the second BAPC. After the barbarious destruction of the second BAPC the church of St. Michael in England suffered a division. One joined the Jugoslaws, one other joined the Ukranian jurisdiction.

## CONCLUSION

Todays jurisdiction of Byelorussian churches in exile only perpetuate split and existence of partisan churches. Theoretically, only young Byelorussians can initiate unity in our Orthodox Churches, and at the same time make a dialogue with young American, Canadian-Byelorussians to recognize ethnic and national backround of those parents and grandparents that so misled them through their illiteracy. For the effective and practical way it would be to unite everybody. But ambitious ,Fuerhrers' with senile minds wouldn't permit this to happen.

*Editor of Vieca*

*NOTICE: For illustrations, turn to page 7.*

а пасьля высланы да Варшавы дзе ім заапекаваліся беларускія дахтары Гас. Гас. Мікола Шчорс і Краскоўскі Перанесшыя зьдзекі зруйнавалі Яго здароўе і давялі да васьмі цяжкіх апэрацыяў, якія Уладыка перанёс уПарыжы і, толькі цудам Божым, як цьвердзілі лекары-французы, застаўся жывым."

Прыватна, у лягернай эміграцкай прэсе БЦР, кагосьці бадравала каб прыпісаць архім.Фінькоўскаму амаральнасьць на працягу жыцьця і пакражу царкоўных вартасьцяў у горадзе Менску, пад час нямецкай акупацыі Архімандрыт не прынімаў удзелу у лягерных склоках, жыў у іншай краіне, пагэтаму здавалася-б, што яго не патрэбна было бадраваць.

### Каму і чаму ўсё гэта было патрэбна?

У той час, калі ў ДП лягярох зьмешалі палітыку і царкву, некаторыя палітыканы пачалі баяцца, што арх. Фінькоўскі можыць быць выкарыстаны іншай палітычнай групоўкай. Пачалі баяцца за сябе, яго царкоўныя працаўнікі, якія калісьці яго засадзілі ў скляпы гестапо. Гэтаму падцьвердзілі пазьнейшыя падзеі ў Чыкага.

### Дзейнасьць і крах другой БАПЦ на эміграцыі

Да БАПЦ номер два далучылася царква Сьв. Мікалая, Манчэстар Англія; якую арганізаваў БВРР сапраўдная трэцьцяя сіла), заактывізавліся ў Кліўландзе. Зусім магчыма,што арганізацыя другой БАПЦ, садзйнічыла-б аб'еднаньню ўсіх Беларускіх Праваслаўных Прыходаў. Гэтаму спрыялі факты і падзеі, як: праватыканскае засільле ў БНРаўскіх прыходах, абедзьвеБАПЦ, пры арганізацыі, карысталіся аднымі і тымі самымі канонамі.

Здавалася, што 1960 год быў запозным каб арганізаваць Беларускую Праваслаўную Царкву Сьв. Юрыя.Ідэя памысна разьвілася ў рэальнасьць. Да дзесятка актыву, далучылася каля сотні іншых беларусаў. Забавы пачалі даваць даходы ад дзьвёх да трох тысяч даляраў. Прыхажане, вельмі хут-

ка распазналі, што царкву аплачваюць усе але царква дакумэнтальна ёсьць собскасьцю актыву. Япіскап Уладзімер падтрымаў прыхажан, частка актыву прызнала і пагадзілася із фактам. Другая частка актыву, як Латушкін, Пунтус паставіліся супроць ідэі – зрабіць царкву собскасьцю прыхажан. Актыў–дыктатары забараніліс Япіскапу Уладзімеру служыць у царкве. Каля царквы завязалася вайна актыў дыктатары–прыхажане. Пры ўваходзе ў царкву В. Пунтус надзяець вядро на галаву япіскапа. Прыежджаіць „прыяцель" япіскапа Лапіцкі, які пад час богаслужбы зрываіць аблачэньне із япіскапа. Гэта той самы Лапіцкі, які па прыезьдзе архім. Фінькоўскага да ЗША, вітаў і цалаваўся із ім на лётнішчы. Гэта той самы Лапіцкі, які дэзэртыраваў із праваслаўнай царквы, калі прышлі бальшавікі ў Заходнюю Беларусь. Гэта той самы Лапіцкі, які дапамагаў палякам і Рыму, за што ў Іжанскім прыходзе быў праклятьі із амвоны, а прыхажане былі ўзялі за крыльля яго дый выкінулі нападворак. Гэта гэтая людзіна сёньня ёсьць неафіцыяльны „япіскап" паўдзюжына БЦРаўскіх праваслаўных прыходаў.

Пабіты, зьневажаны Япіскап Уладзімер, пакінуў прыход із умовою, што Латушкін і Пунтус заплацяць 2000 даляраў. Амаль усе прыхажане пакінулі прыход. У прыцаркоўным будынку пасяліўся гаспадар Астроўскі. Із Англіі прыехаў хітры, артыст, выпрабаваны БЦРавец, сьвятар Міpановіч. Яго высілак павярнуць прыхажан да прыходу, кончыўся ў нішто. Посьле двухгадовай сытуацыі–прыход бяз прыхажан–змусіла актывістаў–дыкта татараў пагадзіцца перапісаць царкву Сьв. Юрыя ў Чыкага на прыхажан. Ня ўсе прыхажане вярнуліся назад. Вельмі хутка знайшлі, што грошы выплачаныя за пабоі япіскапа, былі ўзяты із банка, як доўг на царкву. Дыктатары–актывісты пачалі цьвердзіць, што пабоі япіскапа рабіў прыход а не яны.

Пяць год па варварскай дэхаратанізацыі, у прымітываў не згас апэтыт да далейшых паніжэньняў сваіх недабітых ахвяр у склепах гестапа. Высьвечаную царкву быўшым манахам, япіскапам Уладзімерам, высьвецілі нанова. На гэтую цэрамонію былі прыехалі сьвятары, якія некалі насілі нямецкія і польскія мундзіры. Прыехаў той самы Лапіцкі, які сваё жыцьцё пасьвяціў свайму ненасытнаму я.

**Немаючы інтэлігентнай інтэлігенцыі, большасьць прыхажан астылі, зрабіліся абыякавымі, махнулі рукой на ўсё.**

## Чаму так?

У Чыкага ўпрашваньне „фюрараў" перайшло ў акцыю, што змусіла дыктатараў–актывістаў перапісаць царкву на прыхажан. Посьле перапісі царквы, непатрэбна было ў царкоўную раду выбіраць тых самых дыктатараў. У простых людзей не хапіла духу на далейшую барацьбу. Надзея, што „фюрары" стануцца лепшымі, была памылкай. Трэба памятаць, што беларускі „фюрар" будзіць мсьціць усё сваё жыцьцё. Яго нэрвы ўвесь час напружаны, ён няздольны кантраляваць свой інстынкт, у яго адсутнічаіць інтэлігентная інтэлігентнасьць. Для яго асабістае я ёсьць перадусім. Ен маіць незгаснае жаданьне быць наверсе ўсюды і заўсёды.

## Польская і Украінская юрысдыкцыі

Посьле краху другой БАПЦ, царква Сьв. Мікалая, у Манчэстары Англія перайшла пад Украінскую юрысдыкцыю. Арганізатар: Беларускі Вызвольны Рух–незалежная палітычная арганізацыя.

Быўшыя жаўнеры польскай арміі беларусы, ў Англіі арганізавалі Беларускую праваслаўныя прыходы: Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Лёндане і Сьв. Мікалая ў Манчэстары. Абодвы прыходы належаць да польскага япіскапа; палітычна падтрымоўваюць рыцараў свастыкі (БЦР).

На наступных бачынах ёсьць фото здымкі, Беларускіх Праваслаўных Прыходаў па юрысдыкцыях а потым заканчэньне артыкула.

*БЕЛАРУСКАЯ ГРЭКА ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА НА ЭМІГРАЦЫІ.*
*КІРУЕЦЦА ПРАЗ ГРЭЦКАГА ЯПІСКАПА ПАЎНОЧНАЙ І ПАЎДЗЕННАЙ АМЭРЫКІ.*
*ГЭТАЯЦАРКВАЁСЬЦЬ МАТКАЮ ІНШЫХ БЕЛАРУСКІХ ПРАВАСЛАЎНЫХ ГРУПАВЫХ ПРЫХОДАЎ НА ЭМІГРАЦЫІ.*

*МАІЦЬ ЧАТЫРЫ ПРЫХОДЫ.*

*BYELORUSSIAN GREEK ORTHODOX CHURCHES. THE HEAD OF THE CHURCH IS GREEK ARCHBISHOP FOR THE NORTH AND SOUTH AMERICA. IT HAS FOUR CHURCHES.*



ЗША, г. Саўт Рывар, штат Ню Джэрсі. Царква Сьвятой Еўфрасіньні Полацкай і цэнтар беларускіх фашыстаў-новаэўрапейцаў. Грэцкая юрысдыкцыя

*USA, South River, New Jersey. The Saint Eufrosinia of Polocak Church and has a civic center of former Hitler collaborators (BCR).*



ЗША, г. Чыкага, штат Ілыной. Царква Сьв. Юрыя. Былая другая Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква на эміграцыі. Пры царкве ёсьць дзьве залі і чатыры комнаты для жыльля. Побач двух павярховы цагляны дом. Грэцкая юрысдыкцыя.

*USA, Chicago, Ill. The Saint George Church (former second autocephalic church in exile).*

*USA, Jamaica, N.Y. The Saint Cyril of Turow Church. Parishian left BAPC in Brooklyn and organized own church under jurisdiction of Greek bishop.*



ЗША, Джамэйка, штат Ню Йорк. Царква Сьв. Кірылы Тураўскага, прыхажане якой выламаліся із аўтакефаліі эміграцкай БНР у Брукліне ЗША. Грэцкая юрысдыкцыя.



Канада, г. Таронта. Царква Сьв. Еўфрасіньні Полацкай. Грэцкая юрысдыкцыя.

*Canada, Toronto. The Church of St. Eufrosinia of Polocak.*

*БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА і яе прыходы. Кіруецца праз Мітрапаліта. Зьвярніце увагу на крыжы. Тут найлепш можна чытаць палітыку эмігранцкай БНР*

*Маіць дзесяць прыходаў.*

Першы сабор партыйнай БАПЦ. Украінскія япіскапы Плятон, Сергій і нававысьвечаны Беларускі япіскап Васіль, быўшы радны эмігранцкай БНР Тамашчык.



***THE FIRST SESSION OF THE BISHOPS' COUNCIL OF THE BYELORUSSIAN AUTOCEPHALIC ORTHODOX CHURCH IN EXILE.***

***Rt. Rev. Bishop Platon, Most Rev. Archbishop Sergij and Rt. Rev. Bishop Vasili.***

*BYELORUSSIAN AUTOCEPHALIC ORTHODOX CHURCH.*

*Notice the kind of crosses every church has. It has ten churches.*

Аўстралія, г. Адэляіда. Царква Сьвятых Апосталаў Пятра і Паўлы У 60 гадах паміж архімандрытам Мадэстам і апякуном групавой БАПЦ, украінцам, архіяпіскапам Сергіям зайшлі спрэчкі. Пад кіраўніцтвам архімандрыта Мадэста, царква пераходзіць да ўкраінскага Мітрапаліта Багдана. Посьле сьмерці архім. Мадэста, у 70 гадох царква пераходзіць назад да БАПЦ(дзякуючы захадам быўшага япіскапа Андрэя). Крыж: два перакрыжаваньні пад простым кутом.

*Australia, Adelaida. The Church of St. Peter and Paul.*






*Australia, Melbourn. Church of St. Anthony, John and Eufstafia.*

Аўстралія, Мэльбурн. Царква Сьв. Антона, Яна, Еўстафія, не маіць свайго будынка. БАПЦ

*Is now renting the premises.*

*England, Manchester.*

*The Saint Mary*

*of Zyrovichy Church.*

*On editors request,*

*picture wasn't sent.*



Англія г. Манчэстар.

У 1972 г. новавысь-

вечаная царква Жыро-

віцкае Божае Маці.

БАПЦ.



*England, Bradford.*

*Chapel of Holy Savior,*

*in civic center of*

*pro-BNR (in exile)*

*organization.*

Англія, Брадфорд. Капліца Сьв. Спаса ў грамадзкім цэнтры. БАПЦ. Із праватыканскай прэсы бачна, што ў капліцы крыж маіць два перакрыжаваньні пад простым вуглом.

ЗША, г. Бруклін, штат Ню Йорк Катэдральны Сабор Сьв. Кірылы Тураўскага. БАПЦ. Крыж: два перакрыжаваньні пад простым і адно пад косым кутом.

*USA, Brooklyn, N.Y. Cathedral of the St. Cyril of Turow.*



ЗША, г. Гайланд Парк, штат Ню Джэрсі. Царква Жыровіцкае Божае Маці і жыльлёвы царкоўны будынак. БАПЦ. Крыж: адно перакрыжаваньне пад простым кутом. Царква із такім крыжам была адкуплена ад праваслаўных грэкаў.

*USA. Highland Park, N.J. The St. Mary of Zyrovichy Church.*

ЗША, г. Кліўленд, штат Огаё
Царква Жыровіцкае Божае Маці.
Крыж: два перакрыжаваньні пад простым кутом. За форму крыжа, у Клівеландзе ішла вельмі доўга парахвіяльная вайна.

*USA, Cleveland, Ohio. The Saint Mary of Zyrovichy Church.*

ЗША, г.Дэтроіт, штат Мішыган.
Царква Сьв. БАПЦ.

*USA, Detroit, Michigan. Church of Holy Spirit.*



Канада, г. Торонто. Царква Сьв. Кірылы Тураўскага. Крыж-два перакрыжаваньні адно пад простым а другое пад косым кутом. БАПЦ



*Canada, Toronto. The St. Cyril of Turow Church.*



*Belgium. On Editors request, the priest didn't send any information or photos of the church. In Luvain there was a church or chapel, its existence today is unknown.*

*In 1968, BAPC calendar only described activity of the priest there. In 1972 calendar nothing was said about the church or priest.*

Бэльгія, Лювэн. Сьвятар не даў аніякай інфармацыі.

У 1968 г,, БАПЦ календару была апісана дзейнасьць сьвятара.

У 1972 г., календару ня было нічога ўспомнена аб царкве альбо сьвятару

*БЕЛАРУСКІ ПРЫХОД УКРАІНСКАЙ ЮРЫСДЫКЦЫІ*

*Адзін прыход.*

*BYELORUSSIAN ORTHODOX CHURCH UNDER UKRANIAN JURISDICTION.*

*One church.*

Манчэстар, Англія.
Царква Сьв. Мікалая,у звычайным жыльлёвым будынку



*Manchester, England.*

*Church*

*of St. Nicolaus.*

*БЕЛАРУСКІЯ ПРЫХОДЫ ПОЛЬСКАЙ ЮРЫСДЫКЦЫІ*
*Два прыходы.*

*BYELORUSSIAN ORTHODOX CHURCH UNDER POLISH JURISDICTION.*

*Two churches.*



Лондан, Англія.
Царква Сьв. Еўфрасіньні Полацкай.
Царква не маіць свайго будынку



Манчэстар, Англія.
Царква
Сьв. Мікалая

*London, England. The Church of St. Eufrosinia of Polocak.*

*Manchester, England. Church of St. Nicolaus.*

## ПЭРСПЭКТЫВЫ ПА ЮРЫСДЫКЦЫЯХ

*ГРЭЦКАЯ ЮРЫСДЫКЦЫЯ.*

1. Уся маемасьць належыць грэцкаму япіскапу, які маіць поўную уладу ў усіх царкоўных справах.
2. Моцнае трыманьне канонаў не дазваляіць аб' еднаньню із некананічнай БА ПЦарквой.
3. У асноўных парахвіях, парахвіяне не бяруць ўдзелу ў царкоўных справах.

*БАПЦ.*

1. Царква была арганізавана чужынцамі, кіравалася чужынцамі, у некаторых мейсцах была зарэгістравана, як украінская. Спосаб арганізацыі БАПЦ гістарычна ёсьць паніжаючым для патрыятычна думаючых Беларусаў.
2. Скампрамітавана за сувязь із ватыканскімі агентамі эміграцкай БНР.
3. БАПЦ ёсьць апанавана місыянэрамі із вышэйшай адукацыяй, якія былі узгадаваны на каталіцкіх унівэрсытэтах. Лювэнскі каталіцкі ўнівэрсытэт Бэльгія; выпусьціў найбольшы лік місыянэраў якія распаўзьліся па парахвіях БАПЦ.
4. Многія праваслаўныя радныя, эміграцкай БНР, асабліва із паншэхнай адукацыяй, падтрымоўваюць праватыканскаю палітыку сваіх „фюрараў".Гэтаму найлепш сьведчыць іх выступы і заўвагі прыватна да асобы Мітрапаліта Андрэя, які ёсьць крытык вуніяцтва.
5. Каталіцкае засільле ў БНРаўскіх арганізацыях не дапусьціць да аб' еднаньня із наступных прычын: за партыйнаю БАПЦ лягчэй хавацца вуніятам; лягчэй распальваць ненавісьць сярод патрыятычна думаючых Беларусаў і Ўсяленскім Патрыярхам, так як ён не вызнаець незалежнай беларускай царквы на эміграцыі; праватыканскім місыянэрыкам лягчэй трымаць кантроль над меншай царквой.
6. Мітрапаліт Андрэй можыць зрабіць рэвалюцыю праз індывідуальную адукацыю і арганізацыю праваслаўных Беларусаў каля БАПЦ.
7. Лідары БАПЦ прапаноўваюць фальшывае аб' еднаньне, гэта значыць пакорніцтва. Перш прызнаць БНРаўскую БАПЦ, далучыцца да яедый назваць гэта „аб' еднаньнем".

*УКРАІНСКАЯ ЮРЫСДЫКЦЫЯ*

Царква не пашыраецца далей чым Англія. Разлад у БВР ськіраваў усю энэргію на міжсобную барацьбу. Царкоўна палітычны параплаў сеў на мель.

*ПОЛЬСКАЯ ЮРЫСДЫКЦЫЯ.*

Пэрспэктывы прыходаў, як тых верабёў у лёнданскім тумане.

## ВЫСНАВЫ

На эміграцыі Беларусы арганізавалі 17 праваслаўных прыходаў, якія выконваюць партыйна групавую палітыку. У Аўстраліі зьнікла два БАПЦ прыходы, у Квібэку Канада БАПЦ дасягнула куплі пляца, але ня вырасла ўпрыход. У Ракфордзе штат Ілыной ЗША, чужынцы залезьлі і пераоралі Беларускі праваслаўны прыход. Беларускае праваслаўнае жыцьцё ў Паўдзённай Амэрыцы адсутнічае поўнасьцю.

Як практыка паказваіць, што сьвятары ўзгадаваныя расейцамі ў большасьці ёсьць духоўныя інваліды для Беларускай Праваслаўнай Царквы.

Ня гледзячы ці гэта ёсьць Беларуская аўтакефалія ці йшчэ як, намі кіравалі і кіруюць чужынцы нават уплыў маюць каталікі.

Партыйна групавыя прыходы практыкуюць няхрысьціянскую этыку, мараль.

Палітычныя „фюрары" на эміграцыі, якія і кіруюць царкоўным жыцьцём, робяць усё магчымае каб ня было царкоўнага аб' еднаньня.

Пры дыскусіях апошнім козырам „фюрараў" ёсьць такі: „ Мы маем хоць нешта!?" А вы?!?!?!?!"– паказваіць страту розуму і выскак асабістага я альбо ёсьць апошні выстрал беларускага палітычнага садыста.

Партыйна групавое разьеданьне праваслаўных прыходаў прыносіць найвялікшую шкоду Беларускаму Народу.

Аб тым што разьеднаньне ёсьць „здаровая" канкурэнцыя ёсьць „філязофія"злога духа альбо хворай галавы.

Кроме мовы, беларускага паходжаньня нас мусіць яднаць нешта і нехта духоўна і фізычна, як суцэльны народ. Найлепш гэта выканаць можыць аб'еднаная Беларуская Праваслаўная Царква, асабліва на эміграцыі.

Аб' еднаньне ўсіх Беларускіх Праваслаўных Прыходаў на эміграцыі даўбы на паўстагоддзе крок наперад а Беларусам гэтага часу на эміграцыі–вечны помнік.

*Рэдактар „Веча"*

---

# НАВІНЫ, АГЛЯД ПРЭСЫ - КАМЭНТАРЫ

## ,BYELORUSSIAN YOUTH' 1(27), 1972

Published by the Byelorussian American Youth Organization. The organization is a substitute for the Byelorussian Youth Association of America since 1967. (so called Kryvichy) Its the same old journal that was destroyed in 1966 bysome fathers of today BAYO and fathers of UBAY–Byelorussian Hitlerjugend in exile that settled in South River, New Jersey.

Between 1962 and 1967, the journal was very successful. The journal had money, material to print, and subscribers were on the increase.

The journal disappeared suddenly and there was no explanation.

Six years later(1972), the journal came up under the same name but less attractive from the outside and different in the inside. The editorial staff tried to explain that 'the journal isnot the same but was the same, etc.'

The daughter of a well-known ,Kryvich' in ,WHY' writes **,Therefore, the Editorial Board of this periodical urges and welcomes all Byelorussian youth, no matter where they are or what organization they belong, to participate with us in this project.'**

It sounds very simple. For those who know the history of the journal will say that somebody is goofing.

If the journal has a real intention to organize young Byelorussian-Americans, then there should be an editorial stuff not just Kryvichy youth, and their old journal title! If some of your fathers talked you into taking over their shameful job they did in 1967, they succeeded but not you. Time will convince you.

Here is a list of names and backgrounds of the last editorial staff of BYELO-RUSSIAN YOUTH' No. 26 (1967). From Union of Byelorussian- American Youth (BCR, Zarubezniki):

1. Dr. V. Kipel: Luvain Catholic Uni., degree in geology, today leader of Republican Byelorussian Ethnic Group, one of main trouble makers in Belair-Miensk, was editor of journal, age over 40, suriviver of pro- Hitler Byelorussian Youth.

2. M. Bachar: engineer, age approx. 30.

3. M. Paluchovich: no college.

4. V. Cierpicki: no college, trouble maker in Belair- Miensk.

5. L. Surak: unfinished college.

6. M. Sienko: no college, age approx. 40, surviver from pro-Hitler Byelorussian Youth, one of the trouble makers of Belair-Miensk.

From Byelorussian Youth Association of America (BNR-Kryvichy):

1. G. Stankevich: engineer, was responsible for technical edition of journal; today dissappointed Georgie who lives in Germany, one who did most work for journal but his work was appreciated less by others.

2. J. Zaprudnik: graduated as a historian from the Luvain Catholic Uni.

3. A. Lysjuk: no college.

From the names, ages and organizations, you can see that there was no youth except 2 or 3 persons at age of 30. Most important, there was partial unity between the 2 ever-fighting groups. This temporary unity was responsible for success of the journal. They could unite permanently and establish ground for a real organization of Byelorussian Youth that would be able to take responsibility to reorganize a disorganized and disoriented Byelorussian youth that is misled by our Russian, Polish and other,friends'.

Before solving a problem, you must first study the problem. If you dream about a project, make a sketch, study it, ask someone to help.

If I were young myself, I would ask the following questions:

1. How many Byelorussians outside Byelorussia? Answer: 2 million.

2. How many young Byelorussians and where do they live? Answer: ?????

3. How many Byelorussian youth are organized? Answer: Check your own organization.

4. Why are Byelorussians not organized? Answer: ?????

5. Why is it two small organized Byelorussian youth are opposing each other so bitterly and what for?

6. Should Byelorussian youth organize themselves and why? Answer: Let's look what others are doing. Jews are organized; Italians are organized; Ukranians are organized. Take time and visit meetings and activities of Latvian and Ukranian youth.

7. How to relate Byelorussianyouth organizations and their goals to every-day life, jobs, college and other people you are surrounded by and problems you have to deal with daily? You don't live in Free Byelorussia!.

8. Forget about Byelorussian and be American or Canadian! Answer: Besides football and baseball and fashion, what else is Canadian or American?

9. Is it possible to be fifty-fifty with Byelorussians and Americans, etc. ?

10. How then to relate the law in the country we are living to our desires to preserve our ethnic background?

11. Do we really know our ethnic background well? How we differ physically and mentally from other ethnic groups? Is our ethnic background better, the same or worse than others?

12. Do our parents really understand why we are using more English than the Byelorussian language?

13. Don't we want to speak out why so many of todays Byelorussian youth don't want to study in Sundays Byelorussian Parochial schools' Worse yet,what what do we see in South River that after ,graduation' Byelorussian youth name Orthodox holidays as , Russian Christmas', Cyrylic alphabet as the,Russian alphabet', even fathers language is called , Russian'. What it means is an outburst in Byelorussian Parochial Schools like , I don't want to study Russian! I don't care'. More amazing is that most youth know the difference between Kryvich and Zarubeznik but don't understand own ethnic backgorund. How did this happen?

Anybody who ignores the above mentioned questions and there are lots of them, shouldn't attempt to organize Byelorussian-American or Canadian Youth.

Todays Byelorussian Youth in America and Canada understand each other better. You have more in common and good reasons to unite and organize others.

Editorial stuff of 1967 ,BYELORUSSIAN YOUTH' were fathers and grandfathers because of their ages. Their education and background had very little in common at that time with Byelorussian youth.

* * *

БЕЛАРУС №184–1972. ШТО ЧУВАЦЬ. **У Амэрыцы выходзіць 14 беларускіх, выданьняў, 73 украінскіх, 42 літоўскіх, 31 расейскіх, 30 армянскіх, 13 карпата–рускіх, 2 латыскіх, 1 эстонскае, 1 грузінскае, 1 казацкае.**

Зьвярніце ўвагу! Прыблізна адна тысяча арганізаваных Беларусаў у Амэрыцы ёсьць больш „творчымі" за дзесяць тысяч латышоў(дакладны лік не знаем). Тых латышоў, якія ў ДП лягярох былі акупавалі амаль усе УНРАўскія ўстановы;тых латышоў, моладзь якіх па другой вайне можна было спаткаць вялікімі групамі на кожным унівэрсытэце Зах. Нямеччыны. Аднаго разу, быўшы старшыня БАЗА ізНью Брансвіка наведаў латышоў у Нью Джэрсі, якія сьвяткавалі Дзень Незалежнасьці Латвіі. Пабачыўшы публіку там, ён увесь час гаварыў: а-а-а-леж і людзей было, а мо-о-о-о-о-ладзі; вот братка дык арганізаваныя".

14 беларускіх выданьняў у Амэрыцы, на так малую групу, паказваіць,што Беларуская Справа заблудзіла, блукаіць. Каб ахапіць двух міліённаю Беларускую эміграцыю: якую трэба знайсьці, некалькі год бясплатна пасылаць прэсу, прасачыць ідэю на бацькаўшчыну; зьмест выданьняў наагул а беларускую праблему асабліва зрабіць цікавай; на міжнародную палітыку глядзець аб' ектыўна, па беларускі–для гэтага патрэбна мець агульна беларускі пагляд на права, эканоміку, рэлігію, філязофію. Трэба мець нейкую мерку да якой трэба параўноўваць сваё і чужое, інакш яно ня будзіць беларускім, ня будзіць цікавым. Трэба прысьвяціцца Беларускай Справе а не асабіста гркпавой, чужой, „непредрешенской" ідэі. Колькасна малой але із яснай мэтай Беларускай Палітычнай Эміграцыі ёсьць неабходна сканцэнтраваць сілу, фінансы і розум каля двух трох выданьняў, каб паскорыць час, павялічыць энэргію, вывесьці Беларускую Справу на шлях ідэйнай мэты, для дабра Беларускага Народа!!

* * *

БЕРАСЬЦЕЙСКАЯ ВУНІЯ. В. Пануцэвічам напісаная кніжка на 140 бачынах. Рататарнае выданьне пра гісторыю Берасьцейскай вуніі. В. Пануцэвіч просіць адгукнуцца на зьмест кніжкі.

Мы хочым запытаць раднага эміграцкай БНР В. Пануцэвіча: у які спосаб вы плянуеце правесьці вунію на Беларусі? Вы і далей, як калісьці ў 50 гадах, верыце, што спосаб Сталіна і Гітлера ёсьць найлепшыя?

## „БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЯ РАДА Ў ЧЫКАГА"

23 кастрычніка 1941 года, першы прэм'ер БНР, адвакат Язэп Варонка, Макар Аблажэй, Пятро Чопка, Ігнат Лабач, ксёндз Янка Тарасэвіч, міністар ураду БНР Янка Чарапук(тры праваслаўных і тры каталікі) у Злучаных Штатах Амэрыкі, запачаткавалі першую Беларускую арганізацыю.

У 1971 годзе арганізацыі споўнілася 30 год яе жыцьця і дзейнасьці. Беларуская эміграцкая прэса чамусьці незахацела паінфармаваць сваіх чытачоў із гісторыяй Беларускай Рады ў Чыкага.

У 1950 годзе ў ЗША пачала прыбываць Беларуская Эміграцыя із Нямеччыны. Тыя што былі ў беларускіх асяродках далучыліся да БАНРады ў Чыкага. Тыя што прыехалі із чужых асяродкаў сталі бязпрытульнымі альбо прыліплі да старых знаёмых. Із шасьці арганізатараў БАНРады ў Чыкага, актыўным застаўся Чарапук-Змагар, каталік, татальны алкаголік. Гэтага Чарапука выбіралі старшынёй із тае прычыны, што паміж сябрамі рады была апінія, што на старшыню павінен быць чалавек із амэрыканскім грамадзянствам, хоць у сапраўднасьці ніхто не праверыў -ці гэта так? Яго сакратаром быў фанатык-каталік Пануцэвіч, які і праводзіў палітыку. Першыя два гады спрачаліся. У 1953 годзе, падчас візыты Абрамчыка ў Чыкага, Пануцэвіч перастараўся, за што і быў пазбаўлены сяброўства рады. Варта апісаць, хоць часткова, пра Абрамчыкавую візыту. Апякуном і шоферам для Абрамчыка быў Чарапук-Змагар. Заўсёды п'яны, быў неасьцярожным, што гаварыў. Ен быў вельмі незадаволены, што гатэль у якім прабываў Абрамчык, быў больш для беднаты а не для прэзыдэнта. Чарапук увесь час не разумеў, чаму Абрамчык амаль кожны дзень напамінаіць яму: як-бы найхутчэй дабрацца да каталіцкага манастыра Лайола, дзе прабывалі беларускія ксяндзы: Рэшаць, Тарасэвіч. І сапраўды, заехаўшы да ксяндзоў Абрамчык там правёў большасьць свайго часу. Ў мяне першы раз паўстала пытаньне, што за гешэфт, якая карысьць для грамадзтва Чыкага, што калі не памыляюся, із трох тыдняў прабываньня ў Чыкага, Абрамчык правёў два тыдні із ксяндзамі, а рэшту із Будзькамі і Пануцэвічам. Напасьледак Пануцэвіч супроць волі сяброў рады, пад час прыняцьця Абрамчыка, калі адсутнічыла большасьць рыцараў свастыкі, пры падтрымцы сваіх іня пісьменнасьці іншых робіць Абрамчыка ганаровым сябрам БАНРады ўЧыкага. Рыцары свастыкі прапанавалі аднача сна зрабіць ганаровым сябрам БАНРады Астроўскага. Будзкі і Пануцэвічы сказалі не. Калі ў іх пачалі пытацца-чаму не? Адказ быў "ну не„. Такі адказ абурыў нават тых хто не падтрымаў Астроўскага.

Посьле такіх "удач„ сэктар эміграцкай БНР у Чыкага арганізоўваіць вуніяцкі асяродак. Праватыканская прэса "Бацькаўшчына„,"Божым Шляхам" распускаюць сплёткі, што БАНРада ў Чыкага зьліквідавана. Тыя самыя сплёткі пачала распускаць газэта „Беларус", калі яе пачаў рэдагаваць ідэяліст эміграцкай БНР Станіслаў Станкевіч.

Чыкага ў 1950 годзе быў выключны асяродак тым, што БАНРада была арганізавана старымі эмігрантамі; якія ня былі здольнымі арганізаваць беларускае культурна-рэлігійнае жыцьцё. Прыезд новай эміграцыі мог запоўніць гэты недахоп. Пры гутарцы із старымі эмігрантамі яны часта пыталіся: „за што вы сварыцеся? Вы так прыгожа сьпяваіце! Такія песьні, мы ўжо даўно ня чулі". Пад час сьвяткаваньня 25 Сакавіка больш палавіны прысутных на акадэміі былі старыя эмігранты. Вось фото із сьвяткаваньня ў 1953 годзе. Палова людзей былі ў іншым памешканьні, так як заля была занадта малая.



Беспрацоўе ў канцы 50 гадох змусіла некаторых Беларусаў пакінуць правінцыю дый пераехаць да Чыкага. БАНРада папоўнілася новымі сябрамі, адначасна выкрасталізавалася ў праваслаўную арганізацыю. Актыў арганізацыі належыў а сёньня асабліва падтрымоўваюць рыцараў свастыкі (Астроўскага). На пачатку 60 гадах арганізацыя церпіць другую катастрофу, якая распачалася ў Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царкве, духоўным апякуном якой быў япіскап Уладзімер.

Трэба прыпомніць прозьвішчы людзей якія спасьлі арганізацыю пры першым наступе праватыканскіх фашыстаў ґэта сп. Салавей і сп. Рамаўскі. Да пазітыўнай працы–падчас барбарскай завірухі, якую спрычынілі рыцары свастыкі ў другой беларускай аўтакефаліі –заслугоўваюць сп. Агалец, сп. Калтуноўскі, сп. Нягода, сп. В. Маркоўскі.

Як быўшы сябра БАНРады ў Чыкага і яе выканаўчага воргану, пачуваюсь вінаватым, што здарылася ў гэтай арганізацыі. Я ня быў падрыхтаваны спаткаць тое што хавалася за вывеской „Беларуская Справа".

Так доўга, як беларуская інтэлігенцыя і актыў не пачнуць працаваць над сабою, намі будуць кіраваць: чужыя ідэі, чужыя ўплывы; намі будуць кіраваць інстынкты свайго я, а не „Беларуская Справа".

*Др. П. Маркоўскі*

# АДКАЗНЫМ ЛЮДЗЯМ ПАД РАЗВАГУ

Зьявішча сьмерці зьяўляецца найболей паважным выдарэньнем у жыцьці чалавека.

Кажны чалавек на працягу свайго жыцьця праходзіць розныя фазы настаўленьня да зьявішчаў фізычнага і духовага сьвету. Малое дзіцянё пераважна занята ўвагаю вонкавага сьвету, у які яно пачынае ўваходзіць. Малады чалавек, аддадзены свомай яму энэргіі, зняты ўсім толькі ня зьявішчам сьмерці. Ен ня часта нават здагадваецца, што гэткае нешта існуе на сьвеце, а калі існуе, можа абавязваць кажнага іншага, але не яго.

І толькі на захадзе свайго жыцьця ў чалавеку будзіцца глыбейшая склоннасьці да паважнае думкі. Цяпер пачынае ён разумець, што тое, што ён чуў да нядаўна, пайменна, што жыцьцё зьяўляецца кароткім, пачынае прыймаць у ім нейкі сэнс. Цяперака ён запраўды вычувае, што жыцьцё ёсьць кароткім. Усё тое доўгае было толькі ўчора; сягоньня–час разважаньняў, а заўтра–наагул не належыць да яго.

Апошнім часам на бачынах беларускае прэсы што раз часьцей спатыкаем нэкралёгі аб сьмерці ведамых нам людзей. Памер добры беларус..., памер доктар..., памер...–Блізкія нам людзі, мы іх ведалі, разам маршыравалі ў долі і нядолі. Разам працавалі, разам дыскутавалі, разам сварыліся, разам мірыліся, каб зноў ісьці супольна на шляху, на якім прысьвячала нам беларуская ідэя, тая самая ідэя, якая была і ёсьць нашаю пуцьцяводнаю зоркаю.

Гэтыя разважаньні прыводзяць нас на думку суадносінаў нас самых да часу, нас самых да нашае ідэі і працы, зьвязанае зь ёю і нашае будучыні ў гэтым асьпэкце.

Калі чалавек выбіраецца ў доўгую дарогу, тым, што астаюцца за ім, ён хоча сказаць нешта важнае, магчыма найважнейшае. Ен хоча зрабіць яшчэ апошнія загады, каб упарадкаваць палажэньне рэчаў, зьвязаных з гэтым доўгім падарожжам.

Адзін з нашых рэдактараў, падаючы вестку пра сьмерць аднаго з нашых суродзічаў, кажа, што нябожчык „не пасьпеў распарадзіцца ні домам, ні іншай, хоць невялічкай, маемасьцяй". Распараджэньне матэрыяльнаю маемасьцю мае сваё значэньне. Але існуюць іншыя гэтаксама вартасьці.

Ад часу Другое сусьветнае вайны мінула ўжо чэцьверць стагодзьдзя. Напярэдадні гэтага часу беларуская эміграцыя перажывала свой малады век, ня думала пра старасьць і аддавалася поўнасьцю працы. Малады век, як і кажны іншы, ня мае сталага стану. Часта чутно паміж людзьмі памылковае выражэньне: Час хутка мінае Час ня мінае. Час стаіць. Тое, што ў ім мінае–гэта людзі. Усё іншае і людзі будуць мінаць.

Мы можам абярнуцца і паглядзець на пройдзены шлях нашае дзейнасьці і зрабіць падсумаваньні. Ці можам мы зірнуць наперад і зрабіць прагнозу прышлае беларускае працы на эміграцыі наагул?

Калі дваццаць пяць гадоў таму мы прыйшлі на нашае новае месца пасяленьня абдзертымі і поўгалоднымі, мы ўсё-ж прыйшлі з багацьцем нашае вызвольнае думкі, якую мы асьцярожна несьлі ў нашым сэрцы.

Гэтым паясьняецца, чаму паўсталі сярод нас арганізацыі, газэты, часапісы, зьявіліся кнігі, паявілася тая самая праца, як маніфэстацыя нашага ідэалу і нашых нацыянальных сьвятасьцяў... Але нэкралёгі гавораць нам, што гэтае зьявішча ня мае гаранцыі на прышласьць, хіба–што сягоньня будуць чыніцца прыгатаваньні на заўтрашні дзень. Ці чыняцца сягоньня распараджэньні ў гэтым сэнсе? Ці пісьменьнікі маюць на воку тых маладых нашых людзей, якія яны перакажуць свой сьветач? Ці рэдактар, абцяжаны сягоньня мінулаю працаю і жыцьцёвым дазнаньнем, прадбачыць, як будзе выглядаць ягоная публікацыя заўтра? Ці старшыня арганізацыі вядзе сваю дзейнасьць, так, каб абясьпечыць спраўнасьць працы пасьля таго, як будуць сказаныя прыгожыя словы над ягонаю сьвежаю магілаю? Ці дадзеная царква робіць адпаведныя натугі з мэтаю падрыхтаваньня болей адукаваных людзей, якія разам са сваім зграмаджэньнем учыняць школу надзеі і характару для тых, што пяройдуць у заўтрашні дзень?

Да гэтае пары ў гэтым дачыненьні мы бачым толькі адно характэрнае агалошаньне, аблічанае сваім зьместам на прышласьць:

У школу могуць быць прынятыя хлопцы беларускага паходжаньня ў веку ад 8 да 12 гадоў".

Гэта ёсьць распараджэньня на прышласьць і мы толькі можам шкадаваць, што агалошаньне гэтае адзіным у нас зьяўляецца.

Як будзе выглядаць беларуская праца ў дыяспары за дзесяць гадоў ад сягоньня?... за дваццаць?...

Час гэты не далёкі. Ён стаіць ужо на парозе.

*Пастар Ян Пятроўскі*

## УСЁ НЯ ТАК...

Чытаючы артыкул сп. Д. Верасава у №2(16) часапісу „Веча" пад тытулам „Беларуская песьня", прыгадалася імя ведамага фантазёра барона Мюнхгаўзэна. І сапраўды, як можна ў такім, параўнальна кароткім артыкуле, з прэтэнзіяй на гістарычнасьць, зьмясьціць гэтулькі бязумоўнай няпраўды?

Дадзеныя у гэтым артыкуле адносна гісторыі паўстаньня, разьвіцьця і працы беларускага мяшанага хору не адпавядаюць сапраўднасьці і ўяўляюць сабою спробу увесьці у зман беларускую грамадзкасьць. Таму лічу сваім абавязкам, на падставе фактаў падаць наступнае.

Беларускі мяшаны хор быў сарганізаваны аўтарам гэтых радкоў у канцы 1949 г. у Саўт Рывэры, Н. Дж. Першае выступленьне хору пад маім кіраўніцтвам адбылося 15 сак. 1959 г. у Саўт–Рывэрскай Гайскул(гл. „Споксмэн" 17 сак. 1950 г.). Тыдзень пазьней хор у тым–жа складзе удзельнічаў у сьвяткаваньні 32–х угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі, якое адбылося у Нью Ерку. Гэта былі першыя выступленьні з беларускай песьняй у США(„Бел. Слова"№2,1958 г.). Сп. Селях–Качанскі у той час быў у Нямеччыне і першы ягоны канцэрт з хорам адбыўся у Саўт Рывэры толькі 25 чэрв. 1950 г. (Бел. Слова №1, 1958 г.).

Ад 1950 да 1964 г., калі фактычна мяшаны хор спыніў сваю працу, хор ня меў сталага мастацкага кераўніцтва і працаваў толькі пэрыядычна. Так у гг.: 1950, 55, 56, і 57 з хорам выступаў сп. Качанскі; у гг.: 1951, 52, 54, 58, 59, 60 і 61–Сп. А. Евец, у гг. 1953, 63 і 64–сп. Д. Верасаў; у гг.:1950 і 62–аўтар гэтых радкоў. Гэтыя дадзеныя узятыя з беларускай прэсы і захаваўшыхся дакумэнтаў, магчыма, часткова няпоўных.

Сп. В. Селях–Качанскі у „Беларускім Слове" №4(36) за 1957 г. зьмясьціў покліч стварыць сталы беларускі народны хор–капэлу. Гэтым самым ускосна пацьвярджаецца, што сталага мяшанага хору тагды ня было. Ня было яго і пазьней. З гэтага вынікае, што сп. Д. Верасаў хору ад сп. В. Качанскага не пераніmaў і ня мог „працягваць яго традыцыі„, якіх хор мець ня мог. Трэба падкрэсьліць, што найболыш з мяшаным хорам, які супроць цьверджаньня сп. Д. Верасава усё-ж такі меў тытул–„ Хор ЗБ.А.Д.К.", працавалі сп. В. Селях–Качанскі і сп. Аркадзь Евец.

Былым акампаньятарам хору сп. Верасаў ня быў. Пры сп. В. Качанскім хору акампаніравалі спачатку сп. П. Владыка(аккардэон), а пазьней спадарышня Аксана Качанская(фартэпіяно), Пры сп. А. Евецу хору акампаніраваў пішучы гэта.

Далей сп. Верасаў, даўшы волю сваёй фантазіі, піша:–„...часта давалі нашы супольныя праграмы(з хорам Каліна)". Не часта, а толькі адзін раз–на фэстывальным выступленьні на сусьветнай выстаўцы у 1964 г., пасьля якога сп. Верасаў наагул больш не выступаў з сьвецкім хорам.

Што да цьверджаньня сп. Д. Верасава, што „прафэсыяналы звычайна вырастаюць із здольных і працавітых любіцеляў", дык гэта ня так! Любіцель заўсёды заўсёды застаецца любіцелем, аж пакуль не атрымае прафэсыянальнай асьветы.

Гэта датычыцца як сьпевакоў так і кампазытараў. Для кампазытараў аматараў, якім зьяўляецца сп. Д. Верасаў, цяпер існуе спэцыяльны назоў-„самадзейны кампазытар„. У рэпэртуары хору„Каліна” маецца шэраг песьняў некаторых таленавітых самадзейных кампазытараў, як Ю. Семянякі (Явар і Каліна) і М. Шуміліна (Мяцеліца).

Сп. Верасаў скардзіцца, што паўстаньне мужчынскай капэлы прычынілася да развалу мяшанага хору. Выглядае, аднак, усё наадварот–нежаданьне сп. Д. Верасава працаваць з хорам пасьля 1964 г. спрычынілася стварэньню мужчынскай капэлы пад кіраўніцтвам Ю. Рымка.

Далей сп. Д. Верасаў піша:–„Пасьля выпуску некалькіх кружэлак хор апраўдаў сябе.”–Дазвольце запытацца, прычым тут хор? Сп. Д. Верасаў напяяў кружэлкі з салістамі, а ня з хорам, і пры гэтым на кружэлцы „Белорашн Лірык Сонг” ёсьць такія „беларускія” песьні, як „Поэма” чэскага камп. Фібіха і ведамы расейскі раманс М. Глінкі „Жаваранак” з беларускім тэкстам. Таму дзіўным здаецца закід сп. Д. Верасава мне, як кіраўніку хора „Каліна”, што акрамя народных мы сьпяваем і песьні сучасных беларускіх кампазытараў, якія у гэтым выпадку. ён, відавочна, ня лічыць беларускімі і патэтычна галосіць „сорамна абманьваць бедных слухачоў...” Сп. Д. Верасаву належыць ведаць, што акрамя народных існуюць песьні, напісаныя кампазытарамі. Пры гэтым асаблівасьці народнай песьні–натуральны акорд, заканчэньне мелодыі на устойлівых гуках, кадэнцыі з сёмай ступені на тоніку у натуральным міноры і г. д.–зусім не абавязковыя пры стварэньні кампазытарам ягонае музыкі і толькі могуць быць ім выкарыстаныя. Таму такія песьні „Шыпшына”, „А хто там ідзе?”, „Люблю наш край”, „Казка”і іншыя, створаныя беларускімі кампазытарамі,-беларускія. Што да прымітывізму, дык рэпэртуар хору уключае бальшыню народных песьняў у апрацоўцы ведамых кампазытараў ды некаторыя хоры з опэрнай музыкі.

Сп. Д. Верасаў павучае:–„Для чаго 50 ці болей песьняў у рэпэртуары? Папрацуйце прылежна і навучэцеся 25 болей цяжкіх,...”–Дзіўна чуць гэта ад асобы,якая сама ніколі не працуе „прылежна” і не працавала з хорам ці сьвецкім, ці царкоўным. Хор–жа „Каліна” ужо,амаль, дзесяць гадоў працуе сыстэматычна і за гэты час даў па–над трыдцаць канцэртаў,рэпрэзэнтуючы беларускую песьню на усіх грамадзкіх імпрэзах, міжнародных фэстывалях сярод розных нацыянальных групаў. Нашая шырокая аўдыторыя патрабуе адпаведнага па колькасьці рэпэртуару.

Пры выкананьні спадарыняй Г. Петыш маёй песьні „Казка”, да рэчы–вельмі папулярнай, сп. Д. Верасаву здалася для мяне незразумелая „дунаеўшчына”„Казка” па зьместу і музыкальнага–вытрыманьня ў народным стылю. І. Дунаеўскі, вельмі папулярны у свой час расейскі кампазытар, музыку у народным стылю ня пісаў. Але сп. Д. Верасаву усё–ж такі пры гэтым пачулася іншая песьня–рытм той-жа, мелодыя амаль тая самая”. З аднолькавым рытмам, як ведама, ёсьць тысячы песьняў, а калі усё-ж пры гэтым „лезе у вушы” іншая мелодыя, то тут ужо сфэра паталогіі і можа толькі лекар...

Вельмі патрыятычныя і прачульлівыя выказваньні сп. Верасава да Беларусі, у прадмове ягонага артыкулу, прымушаюць зацікавіцца прычынаю, чаму ён адсутнічае на беларускіх нацыянальных і грамадзкіх імпрэзах. Калі–ж у сувязі са сьвяткаваньнем Акту 25 Сакавіка царкоўны хор,платным рэгентам якога ён зьяўляецца, выяжджае у Нью Ерк, дзе служыцца малебен, хор змушаны на тую урачыстасьць шукаць іншага выпадковага рэгента.

Свой артыкул сп. Верасаў канчае у міноры так:–„Час прайшоў, людзі пастарэлі, дух дзейнасьці упаў”.-Вось у тым-та і бяда, што на працягу, амаль, двадцаці гадоў у сп. Д. Верасава ня было гэтага духу дзейнасьці, працаваць ня умеў і не хацеў. Цяпер насуперак фактаў сваёю „пісанінаю” хоча сябе апраўдаць і узьвялічыць а выходзіць паводле народнай прымаўкі: „Каша гарбузовая сама сябе хваліць”.

Кіраўнік жаночага хору „Каліна”

*К. Барысавец*

